ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

# Голас Радзімы

№ 9 [2203] 28 лютага 1991 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 8 кап.

# ЗВАРОТ

## Міхаіла МЕЛЬНІКА ДА ЗАМЕЖНЫХ СУАЙЧЫННІКАЎ

Дарагія мае суайчыннікі, хто, як і я, жыве за межамі гістарычнай Бацькаўшчыны!

Як хрысціянін-баптыст, не магу не падзяліцца з вамі, веруючымі і няверуючымі, сваімі думкамі і перажываннямі. За мінулы год разам з жонкай я пяць разоў наведаў Беларусь. Думаю, што многія з вас таксама пабывалі на Радзіме і ўпэўніліся, якую вялікую патрэбу ў сродках ліквідавання трагедыі яна мае. Мала было таго, што нагараваўся міралюбівы беларускі народ у гады другой сусветнай вайны, калі загінуў кожны чацвёрты чалавек, дык прыйшла новая бяда: 70 працэнтаў тэрыторыі рэспублікі аказаліся забруджанымі радыенуклідамі. Ад вялікага ўздзеяння выпраменьвання перш за ўсё пакутуюць дзеці.

Тыя мае паездкі разам з жонкай і прадстаўнікамі хрысціянскіх місій не прызначаліся дзеля водпуску, адпачынку. Гэта была акцыя дабрачыннасці, аказання дапамогі беларускаму народу, каторы так неміласэрна пацярпеў ад чарнобыльскай катастрофы. Кожны раз мы прывозілі вялікую колькасць аднаразовых шпрыцаў, медыкаментаў, медыцынскія інструменты, хірургічныя пальчаткі і г.д. Але гэта не так лёгка атрымаць. Вы ведаеце: усё каштуе грошай. А я — пенсіянер. І пенсія мая вельмі малая. Шмат разоў я звяртаўся ў малітвах да Госпада, які пачуў іх і цудоўным чынам дапамог нам! Слава яму!

Акрамя пералічанага, прывезлі мы багата духоўнай літаратуры: Біблію, кнігі Новага Запавета і г.д.

Сабраныя ахвяраванні я асабіста адвозіў у забруджаныя раёны Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцей. А таксама былі мы ў чатырох санаторыях, дзе лячыліся хворыя дзеткі, якім перадалі шакалад і лекі.

Дарагія мае браты і сёстры ўва Хрысце, людзі беларускага паходжання! Дазвольце мне звярнуцца да вас з заклікам і просьбай: у імя Ісуса Хрыста адкліквіцеся, акажыце помач бедным дзецям, іх мацяркам і бацькам Айчыны! Яны чакаюць яе з любоўю да вас і надзеяй.

Мы прапаведуем Евангелле ўсім народам. Так, гэта вельмі добра і патрэбна. Але калі мы не прыйдзем на дапамогу пацярпеўшым суродзічам нашым, дык што скажа Усявышні! Калі ён быў на зямлі, то, несучы людзям Слова Божае, дзве трэція свайго жыцця прысвяціў вылечванню людзей. А як жа мы! Хай дапаможа і нам Бог прыняць удзел у выратаванні беларускага народа! У апошні час да мяне даходзяць чуткі, што, маўляў, тая дапамога, якая аказваецца рэспубліцы, не заўжды даходзіць да адрасатаў. Не буду браць грэх на душу і сцвярджаць наконт усіх арганізацый, якія займаюцца размеркаваннем тых ці іншых даткаў. Скажу толькі пра Беларускае таварыства «Радзіма». Думаю, што маю на гэта права хоць бы таму, што ніхто з замежных суайчыннікаў не прывозіў столькі ахвяраванняў, колькі я з жонкай, каб перадаць іх гэтай арганізацыі. Лічу сваім абавязкам засведчыць дакладнасць, справядлівасць і кантроль за ўсім, што тычыцца далейшага лёсу і шляху дабрачыннага грузу. Хай ніхто з вас не падумае, што медыкаменты прападаюць альбо трапляюць куды не патрэбна. Заўжды пры перадачы мною лекаў у таварыстве «Радзіма» прысутніч... прадстаўнікі Чырвонага Крыжа БССР, аб... ...ей, паміж якімі размяркоўваліся даткі, якія ставілі свае подпісы пад неабходнымі дакументамі аб перадачы. Гэтаксама кожны раз у цырымоніях перадачы брала ўдзел прэса. Акрамя таго, я сам прысутнічаў у некаторых санаторыях і бальніцах у момант уручэння ...рунках, меў размовы са многімі хворымі. ... сказанае дае мне падставы сцвярджаць... ваша непасрэдная дапамога, калі вы накіруеце яе ў Беларускае таварыства «Радзіма», дойдзе па прызначэнню і своечасова.

Не адзін я ў гэтым пераканаўся. Летась у Германіі я пазнаёміўся з братам Джорджам. Ён быў на Беларусі, наведаў санаторый у Аксакаўшчыне, для дзяцей-чарнобыльцаў. Калі ён вярнуўся ў Канаду, то выслаў 1 200 долараў і папрасіў мяне, каб я на гэтыя грошы зрабіў закупкі і адвёз іх у таварыства «Радзіма» (так выходзіць намнога дзешавей), што і было зроблена. Сам Джордж не беларус — паляк, чытае пропаведзі на радыё. Вы можаце звярнуцца да яго, падаю адрас:

GEORGE BAJENSKI, PICKERING, ONTARIO LIV 2R4 CANADA. TEL. 416/428-1816.

Шаноўныя мае браты і сёстры! Спадзяюся, што многія з вас пададуць руку дапамогі ахвярам чарнобыльскай катастрофы і сёлетні год будзе годам благаслаўлёным для пацярпеўшых. Памятайце: лепш даваць, чым браць. Барані вас усіх Бог!

**Міхаіл МЕЛЬНІК.**

Альмерсбах, Германія.

---

«Іншаземцу няпроста зразумець ваш уклад жыцця, эканамічныя цяжкасці. Чалавек з ног збіваецца, каб купіць сто грамаў каўбасы, паўдня стаіць у чарзе за тортам... Ніяк не вытлумачыш, напрыклад, адносіны некаторых да сваіх службовых абавязкаў. Такое ўражанне, што прыходзяць на работу, калі захочуць, тут жа аблаюць наведвальніка, застаючыся пры гэтым непрабівальнымі бюракратамі пры вырашэнні самых нязначных пытанняў. Як можна! І ўжо адкрыццём для мяне было тое, што людзі ў вас настолькі любяць грошы, нейкія рэчы...»

(Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ. «СІМОНА З БРАЗІЛІІ»).

Стар. 3, 4



Чарнобыль і дзеці... Гэта жорсткая рэальнасць: сотні тысяч дзяцей нашай рэспублікі апынуліся ў зоне радыяцыйнага ўздзеяння. Многія з іх ужо цяжка пераносяць вынікі апрамянення, для іншых ёсць рэальная пагроза пагаршэння здароўя ў будучыні. І добра, калі дапамога прыйдзе своечасова. Тады і бяда можа абмінуць. Галя і Наташа АЛЬГАНЕЦ (на здымку) прыехалі ў Мінск у спецыялізаваны медыцынскі цэнтр са Столінскага раёна. Яны праходзяць тут прафілактычнае лячэнне.

(Працяг фотарэпартажу змешчаны на 3-й стар.).

---

### ПА УКАЗУ ПРЭЗІДЭНТА

У Брэсце, як і ў многіх гарадах краіны, паводле Указа Прэзідэнта СССР, уведзена сумеснае патруляванне міліцыі і ваенных. Каля дваццаці такіх пешых нарадаў штодзённа выходзяць на вуліцы горада. У ваенных ніякіх транспартных і тым больш баявых перасоўных сродкаў няма. Да такога патрулявання падштурхнула крыміногенная абстаноўка ў горадзе. Толькі за апошні год у некалькі разоў павялічылася колькасць грабяжоў, крадзяжоў казённай і асабістай маёмасці, разбойных нападаў на грамадзян. У многа разоў узрос перапродаж тавараў непасрэдна на вуліцах. Гараджане прынялі новаўвядзенне станоўча.




НА ЗДЫМКУ: на вуліцы Савецкай нарад у саставе сяржанта міліцыі Аляксандра ГАПАНЮКА і радавых Брэсцкага гарнізона туркмена Гарлы ГУЛАЛАВА і кіргіза Нурланбека МУСАЕВА.

Фота Р. КАБЯКА.

**ЗА ЧЫЕ ГРОШЫ?**

## УЛАДА ЛЮБІЦЬ ВАНДРОЎКІ

**У Пастаянную камісію Вярхоўнага Савета рэспублікі па знешнеэканамічных сувязях паступілі прапановы камісій беларускага парламента аб накіраванні парламентарыяў у замежныя камандзіроўкі.**

За мяжу ў 1991 годзе маюць намер выехаць 78 дэпутацкіх груп, у складзе якіх — 277 народных выбраннікаў.

У Польшчу падалі заяўкі 69 дэпутатаў, у Германію — 65, у Швецыю — 60, у Фінляндыю — 53, у Венгрыю, ЗША, Японію — па 30, Вялікабрытанію, Францыю, Чэхаславакію — па 17... Усяго ў прапановах — больш за 20 краін трох кантынентаў.

Мэты камандзіровак — наладжванне кантактаў з суайчыннікамі, вывучэнне метадаў арганізацыі страхавой медыцыны, распрацоўка сумесных дзеянняў у галіне аховы вод Чарнаморскага басейна, азнаямленне з праблемамі сямейнага выхавання, назапашванне вопыту ў гандлёвым абслугоўванні насельніцтва...

Паводле папярэдніх разлікаў, для фінансавання паездак запатрабуецца 140 тысяч інвалютных і 250 тысяч савецкіх рублёў.

Прымаючы да ўвагі складанае становішча з валютай у рэспубліцы, Камісія па міжнародных справах Вярхоўнага Савета БССР прапанавала зменшыць колькасць дэлегацый да 24, а колькасць выязджаючых — да 90 чалавек.

**ЖЫЦЦЁ ПАРТЫІ**

## ЗДАЮЦЬ ПАРТБІЛЕТЫ

За мінулы год добраахвотна пакінулі КПБ больш як 63 тысячы членаў партыі. За гэты перыяд рашылі стаць камуністамі толькі 7 647 чалавек. Асабліва значныя страты панесла Мінская гарадская партарганізацыя: уступілі ў члены КПСС 258 чалавек, а выбылі 16 896.

Такія даныя прыводзіліся на нядаўнім аб'яднаным пленуме Цэнтральнага Камітэта і Кантрольнай камісіі Кампартыі Беларусі.

Больш чым на 30 працэнтаў паменшыліся партыйныя арганізацыі на Віцебскім тэлевізійным заводзе, у такіх аб'яднаннях, як «Шкловалакно» (Полацк), «Хімвалакно» (Магілёў), «Інтэграл» (Мінск), «Беларуськалій» (Салігорск), у Гомельскім дрэваапрацоўчым аб'яднанні.

Паклалі партыйныя білеты многія кі[illegible]ыя работнікі, вядомыя вучоныя. Па ідэйных матывах выйшлі з КПСС, напрыклад, старшыня Магілёўскага гарвыканкома Габрусеў і старшыня прэзідыума Заходняга аддзялення УАСГНІЛ, член-карэспандэнт АН БССР Нікітчанка, былы загадчык аддзела арганізацыйна-партыйнай і кадравай работы Віцебскага абкома КПБ [illegible]шкевіч і многія іншыя.

**СТАТЫСТЫКА СПАДУ**

## КУДЫ КОЦІМСЯ?

Паводле даных Саўміна БССР, у 1990 годзе ў рэспубліцы сабрана менш, чым у 1989, збожжа (у вазе пасля дапрацоўкі) — на 5 працэнтаў, бульбы—на 38, гародніны — на 19, ільновалакна — на 41, цукровых буракоў — на 19, пладоў і ягад — на 50 працэнтаў.

Рэалізацыя жывёлы ў калгасах і саўгасах скарацілася на 15,9 тысячы тон, вытворчасць малака зменшылася на 12,3 тысячы тон. У выніку гэтага дзяржаўныя закупкі бульбы знізіліся на 32 працэнты, гародніны — на 16,5, пладоў і ягад — на 35, цукровых буракоў — на 19, ільновалакна — на 40, жывёлы і птушкі (у жывой вазе) — на 0,5, яек — на 3, воўны (у пераводзе на чыстае валакно) — на 18 працэнтаў.

У цэлым валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі ў 1990 годзе знізілася ў параўнанні з 1989 на 5,9 працэнта, прадукцыйнасць працы — на 2,7.

**ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ**

## САЦЫЯЛЬНАЯ ПРАГРАМА КАЛГАСА

**У калгасе «Расія» Дзятлаўскага раёна вырашана праблема аздараўлення дзяцей. Па дагавору з адной з гаспадарак Крымскай вобласці ўзяты ў арэнду піянерскі лагер, што належыць ёй і размешчаны на беразе Чорнага мора.** Тут ужо пабывала першая група сельскіх дзяцей, сёлета туды адправяцца (лагер дзейнічае круглы год) яшчэ 200 іх равеснікаў. Усе яны змогуць прайсці не толькі курс лячэння, добра адпачыць, але і працягваць вучобу. Хаця месячная пуцёўка каштуе да ста рублёў, школьнікі карыстаюцца здраўніцай бясплатна — расходы поўнасцю ўзяў на сябе калгас.

Мільён рублёў адпусціў калгас на будаўніцтва ўласнага прафілакторыя на беразе Балтыйскага мора, дзе таксама будуць адпачываць дзеці.

Чарнаморскай здраўніцай карыстаюцца і школьнікі з іншых гаспадарак раёна.

Калгас прыняў і шэраг іншых сацыяльных праграм. На яго сродкі ўтрымліваецца, напрыклад, школа і дзіцячы садок. Выплачваюцца грашовыя дапамогі ветэранам, мнагадзетным сем'ям. Калгаснікі карыстаюцца аплатнымі водпускамі, тыя, хто мае патрэбу, забяспечаны кватэрамі.

*«Нельга больш, вобразна кажучы, «класці ўсе яйкі ў адзін кошык», гэта значыць засноўваць усю нашу палітыку ў адносінах да Савецкага Саюза на нашых сувязях з Гарбачовым. Ён заслугоўвае нашай павагі, ён многага дабіўся, і мы павінны мець з ім справы па такіх пытаннях, як скарачэнне стратэгічных узбраенняў, і пытаннях знешняй палітыкі. Але ў той жа час нам трэба ўлічваць, што ён вольна ці міжволі прымаў удзел у спробах аднавіць аўтарытарную сістэму кіравання і садзейнічаць агрэсіі. Я не ўпэўнены, што Гарбачоў кантралюе сітуацыю, але гэта толькі пацвярджае неабходнасць пашырыць кола нашых сувязей і, у першую чаргу, сувязей з дэмакратычнымі сіламі ў Расійскай Федэрацыі. У прыватнасці, мы павінны аказаць падтрымку Ельцыну, дапамагчы яму набыць рытэт на міжнароднай арэне...»*

*(Збігнеў БЖАЗІНСКІ).*

**ЭПІДЭМІЯ**

## ГРЫП АТАКУЕ

Беларусь затапіла хваля новай эпідэміі грыпу і вострых рэспіраторных захворванняў. Калі раней статыстыка не падавала ніякіх лічбаў наконт грыпу, а ўрачы замест гэтай хваробы пісалі нешта накшталт «лёгкі катар», то цяпер афіцыйна прызнана, што і наша сацыялістычная грамадства часам не мінае гэта ліха. Паводле паведамлення Рэспубліканскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, у Мінску і Магілёве сезонны ўзровень захворвання перавышаны ў 4 разы, у Гомелі — у 5 разоў, у Салігорску — у восем. Амаль шэсцьдзесят працэнтаў захварэўшых — дзеці ва ўзросце да 14 гадоў. Па словах урача-эпідэміёлага Раісы Сцепаненка, эпідэмія не была для нас нечаканасцю, да яе рыхтаваліся. Стваралі неабходны запас процігрыпозных прэпаратаў. Са складаў яны пачынаюць паступаць у продаж. Але купіць іх можна толькі па рэцэпту ўрача. Дэфіцыт лекавых сродкаў дыктуе свае ўмовы, і пусціць іх у свабодны продаж, на жаль, няма магчымасці.

**ПРЫРОДА І МЫ**

## НОВЫЯ ЗАКАЗНІКІ

**Па прапанове Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна і Дзяржаўнага камітэта БССР па экалогіі Саветам Міністраў рэспублікі прынята пастанова аб утварэнні дзяржаўных біялагічных заказнікаў «Некасецкі», «Пасынкі» і «Рудакова», якія размешчаны ў Мядзельскім раёне Мінскай вобласці.**

Дзяржаўныя заказнікі ўтвараюцца для захавання ў натуральным стане унікальнага прыроднага ландшафтнага комплексу поўдня беларускага Паазер'я, аховы фауны і флоры, прадстаўнікі якіх занесены ў Чырвоныя кнігі БССР і СССР. Іх агульная плошча складае 551 гектар.

У палажэнні аб заказніках гаворыцца, што на іх тэрыторыі забараняюцца ўсякія работы, што выклікаюць змяненне прыроднага ландшафта, разворванне зямель і высечка лесу, збор раслін і разбіўка турыстычных лагераў, а таксама іншыя дзеянні, што наносяць шкоду раслінламу і жывёльнаму свету.

**НА ГРАНІЦЫ**

## МІЛІЦЫЯНЕРЫ І ШПІЁНЫ

**Не кожны пагранічнік можа пахваліцца ўзнагародай, якую атрымаў старшына міліцыі Сцяпан Хівук. Медаля «За адзнаку ў ахове Дзяржаўнай граніцы» ён удастоены за тое, што затрымаў двух парушальнікаў.**

Апошняе здарэнне адбылося у раёне Брэсцкай крэпасці. Старшына заўважыў, як, штохвілінна азіраючыся, хутка да Дзяржаўнай граніцы ішоў малады чалавек з цяжкім рэчавым мяшком. Далажыўшы абстаноўку камандзіру ўзвода, Хівук пачаў праследаваць невядомага. Той паспрабаваў уцячы, але ў кароткай сутычцы міліцыянер выйшаў пераможцам.

Не ўпершыню работнікі УУС дапамагаюць пагранічнікам. Нядаўна міліцыянеры затрымалі парушальніка на ўчастку заставы імя Героя Савецкага Саюза А. Кіжаватава. Сяржант Анатоль Балачук і старшына Ігар Сінчанкоў за пільнасць, умелыя дзеянні і адвагу пры абясшкоджванні злачынцы, які спрабаваў прарвацца ў сумежную краіну, узнагароджаны нагруднымі знакамі «Выдатнік пагранвойск» 2-й ступені.

**МІЛАСЭРНАСЦЬ**

## ДЗЕЦЯМ ЧАРНОБЫЛЯ

У галандскім горадзе Хілверсюм пачалася акцыя «Дапамажы і прымі дзяцей Чарнобыля». У рамках данай гуманітарнай акцыі, ініцыятарам і непасрэдным выканаўцам якой з'яўляецца нідэрландская дабрачынная арганізацыя «Рэйнбоу», у Нідэрланды ўжо прыбыла першая група дзяцей з Беларусі на адпачынак і для аднаўлення здароўя.

Плануецца ў перспектыве прыняць каля трох тысяч дзяцей з Беларусі. Акрамя гэтага, намечана накіроўваць ім на радзіму прадукты харчавання, вітаміны, фрукты, цацкі, адзенне. Першы аўтамабіль з такім гуманітарным грузам ужо адбыў у СССР, а прыбыўшая ў Нідэрланды першая група — трыццаць два школьнікі на працягу двух месяцаў пройдзе неабходнае медыцынскае абследаванне, зможа азнаёміцца са славутымі мясцінамі Нідэрландаў, не спыняючы пры гэтым вучобы.

Акцыя аказання гуманітарнай дапамогі беларускім дзецям з'яўляецца своеасаблівым працягам агульнаеўрапейскай кампаніі «Салідарнасць з дзецьмі Чарнобыля», якая завяршылася летась і праводзілася па ініцыятыве Сусветнай арганізацыі скаўцкага руху і Савецкага дзіцячага фонду імя У. І. Леніна.

**КАНВЕРСІЯ**





**Удвая больш, чым у мінулым годзе,—на мільён 600 тысяч рублёў — паставіць сёлета тавараў народнага спажывання ў гандлёвую сетку лідскі завод «Оптык». У іх ліку — посуд, прызмы да фотаапаратаў «Зеніт» Вілейскага і Красагорскага заводаў, сувеніры са шкла. Рэзка павялічыць выпуск гэтых вырабаў дапамагла прадпрыемству канверсія.**

**НА ЗДЫМКАХ: вырабы завода; на канвееры — посуд са шкла. Яго якасць гарантуе кантралёр Анжэла СТАНКЕВІЧ.**

**ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ**

◆ Павялічваецца міграцыя некарэннага насельніцтва з Прыбалтыкі. Да прыкладу, за ўвесь мінулы год толькі адзін жыхар Брэста выехаў у Прыбалтыку. Затое ў Брэст перасяліліся каля 200 жыхароў з Літвы, Латвіі і Эстоніі.

◆ У Светлагорску (Гомельскай вобласці) будзе пабудавана другая электрастанцыя. Магутнасць новай ДРЭС 1,2 тысячы мегават. Яна будзе працаваць на прыродным газе. Будаўніцтва Светлагорскай ДРЭС абыдзецца ў 1 мільярд рублёў.

◆ Вучні Сінькоўскай сярэдняй школы, што ў Смаргонскім раёне, атрымалі матэрыяльны стымул да навукі. Штомесяц тыя, хто займаецца на «пяцёркі», атрымліваюць 20 рублёў. Такую ўзнагароду для выдатнікаў увёў мясцовы калгас імя Дзяржынскага.

◆ Лічба разводаў у Мінску ў студзені 1991 года дасягнула 922, а шлюб узялі ў гэтым месяцы толькі 858 пар. Яшчэ ў снежні ўсё было наадварот: на 1 500 шлюбаў 725 разводаў. Сумны прагрэс!

◆ У пасёлак Сапоцкін Гродзенскага раёна прыйшло 50 пасылак з Германіі ў якасці гуманітарнай дапамогі для інвалідаў, састарэлых, мнагадзетных сем'яў. Але перш чым трапіць па прызначэнню, іх добра выпатрашылі работнікі пасялковага Савета. Вядзецца расследаванне.

ГЭТА НЕ РЫО-ДЭ-ЖАНЕЙРА

# СІМОНА З БРАЗІЛІІ

Ёй дзевятнаццаць. Перапыніўшы вучобу ў каледжы горада Сантаса, дзяўчына прыехала ў Маскву на гадавыя курсы рускай мовы пры інстытуце імя А. С. Пушкіна. І вось, скарыстаўшы лютаўскія канікулы, выбралася ў госці да беларускіх сваякоў. Па дарозе прыпынілася на дзень-другі ў Мінску. Пазваніла ў рэдакцыю і перш-наперш паведаміла, што «Голас Радзімы» чытаюць і ў Сантасе. Гэта прыемна было слухаць, як і сустрэцца з бразільянкай беларускага паходжання. Не такія ўжо частыя госці на Бацькаўшчыне суайчыннікі з тых краёў, тым болей іхняе маладое пакаленне.

...Даўнія прашчуры Сімоны, відаць, няблага варылі піва, бо калі б кепска, дык, думаю, не атрымалі б стаўшае радавым, ганаровае прозвішча Піваварчыкі. Яно і цяпер з'яўляецца даволі распаўсюджаным у вёсцы Залессе Баранавіцкага раёна. Менавіта з гэтай заходнебеларускай вёскі, з яе прагрэсіруючай беднасці, прыгнечанасці, з трывожна-чорных чутак аб надыходзе другой сусветнай вайны і выхапіла лавіна эміграцыі Уладзіміра Піваварчыка, дзядулю Сімоны. Выхапіла разам з сям'ёй і занесла ў далёкую і практычна невядомую нам і сённяшнім часам Бразілію.

Але тое, што мы мала дасведчаны, можна лёгка направіць: справа культурнага цэнзу і кругагляду кожнага. А беларускі селянін прыйшоў у Новы Свет і без «кала і двара», як кажуць, і без мовы.

— Мой дзед расказваў, што на пачатку свайго жыцця на бразільскай зямлі прыйшлося ім невыносна цяжка. Ні надзець, ні абуць не мелі чаго. Потым дзядуля знайшоў працу на заводзе, займаўся апрацоўкай металу дома, маючы такарны станок. А ўжо мой бацька здолеў вывучыцца на інжынера.

Імкнуся высветліць у субяседніцы памеры той эміграцкай лавіны. Колькі перасяленцаў з Беларусі можа налічвацца, на яе думку, у самай вялікай краіне Паўднёвай Амерыкі?

— Скажу толькі, што шмат беларусаў расселена ў штатах Сан-Паўлу і Парана. Я чытала ў адным часопісе, што толькі ў апошнім жывуць нібыта 200 тысяч палякаў. Возьмеш тэлефонную кнігу, а там такія знаёмыя прозвішчы. А колькі сярод іх маюць сваяцтва з Беларуссю, хто ведае,— быў адказ.

— У тагачаснай Бразіліі, як і ў многіх іншых краінах Амерыкі, нацыянальнасць імігрантаў вызначалася па грамадзянству, па назве той дзяржавы, адкуль яны прыехалі. Але ў Аргенціне, напрыклад, адпаведнае ўяўленне аб нейкіх лічбах, жыцці суайчыннікаў можна атрымаць у іх суполках, зямляцтвах. Ці існуюць у вашым горадзе, ці ў іншых штатах такія таварыствы? Ёсць жа звесткі, праўда, невыразныя, што ў трыццацых гадах у Бразіліі заснаваўся Беларуска-ўкраінскі саюз, забаронены потым уладамі.

— Такіх ці іншых таварystваў у Сантасе няма,— лічыць сеньярыта Піваварчык. — Не чула пра іх і ў іншых гарадах. У гады ваеннай дыктатуры мала што прыналежнасць да нейкіх арганізацый, нават вывучэнне рускай мовы было дужа небяспечным заняткам, жорстка каралася. Абсурду варта: многія верылі плёткам, што нібыта камуністы ядуць дзяцей... І простыя людзі да таго былі запалоханы, што добраахвотна неслі ў розныя фонды золата, каштоўныя рэчы, абы не пусціць «камунізм» у Бразілію.

— Праявы «халоднай вайны», якая адышла ў гісторыю...

— Так, праявы,— згадзілася Сімона Піваварчык,— але было гэта не так і даўно. Ваенныя знаходзіліся пры ўладзе з 1964 па 1984 год.

— Няма сэнсу пытацца, як вы вывучылі рускую мову. Пэўна, у сям'і Уладзіміра Піваварчыка размаўлялі і па-беларуску?

— У нашай сям'і мала... Размаўляем мы, канешне, папартугальску. Мама мая—партугалка. Бацька, безумоўна, сёе-тое пераняў ад дзеда. А

(Заканчэнне на 4-й стар.).





Каб зрабіць дапамогу дзецям больш эфектыўнай і мэтанакіраванай, Беларускі дзіцячы фонд нядаўна арганізаваў пры рэспубліканскім дыспансеры Навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны ў Мінску спецыялізаваны цэнтр. Дапамогу, якая паступае па лініі фонду з-за мяжы—лякарствы, медыцынскае абсталяванне, прыборы, харчаванне, — намечана накіроўваць сюды мэтавым назначэннем. За сродкі фонду спецыялісты дыспансера будуць павышаць свой прафесійны ўзровень за мяжой. Акрамя гэтага, на адрас цэнтра паступіць мільён рублёў, які пойдзе на паляпшэнне дыягностыкі і лячэння дзяцей, што жывуць у забруджанай зоне.

НА ЗДЫМКАХ: будынак цэнтра; абследаванне пацыентаў праводзяць загадчык аддзялення Нэлі ІВАШКЕВІЧ і медсястра Лілія КНЯЗЮК; урач-эндакрынолаг Ірына КАШАВАЯ ў кабінеце абследавання хворых.

Фота С. КРЫЦКАГА.



АТАМНАЯ ЭНЕРГЕТЫКА Ў 1990 ГОДЗЕ

# НЕГАТЫЎНЫЯ ТЭНДЭНЦЫІ НАШАЙ КРАІНЫ

Атамная энергетыка нашай краіны развіваецца ў цеснай ўзаемасувязі з іншымі галінамі народнай гаспадаркі. Таму на ёй адбіваюцца ўсе негатыўныя тэндэнцыі, характэрныя ў сучасны момант для савецкай эканомікі ў цэлым. У апошнія гады адзначаецца падзенне тэхналагічнай дысцыпліны на прадпрыемствах, што забяспечваюць атамныя станцыі. Гэта праяўляецца ў пагаршэнні якасці пастаўляемага на АЭС абсталявання, запасных частак і рамонтных работ. Не дзіўна, таму, што ў параўнанні з 1989 годам на 17 працэнтаў узрасла колькасць пазапланавых спыненняў.

З 1 верасня па 31 снежня 1990 года зарэгістравана 82 здарэнні на аб'ектах атамнай энергетыкі. Два з іх, згодна з сямібальнай міжнароднай шкалой, класіфікаваны як інцыдэнты сярэдняй цяжкасці (другога ўзроўню). Напрыклад, 8 верасня на першым блоку Ігналінскай АЭС (на мяжы з Беларуссю) з-за памылковых дзеянняў персаналу адкрыліся засцерагальныя клапаны 1-га контуру рэактара. Пара, што выйшла з клапанаў, была паглынута штатнай сістэмай лакалізацыі. Выкіду ў навакольнае асяроддзе і апраменьвання персаналу не адбылося. 9 кастрычніка на першым блоку Запарожскай АЭС пры перагрузцы ядзернага паліва з-за няспраўнасці перагрузачнай машыны была пашкоджана касета са свежым палівам. Небяспека радыяцыйнага забруджвання адсутнічала. Аднак сур'ёзнасць інцыдэнтаў заключаецца ў іх патэнцыяльнай небяспецы. 24 здарэнні ацэнены як нязначныя (першага ўзроўню), 56 не закранулі бяспечнасць АЭС (нулявы ўзровень).

З ростам антыядзернага руху ў атамнай энергетыкі з'явіліся свае спецыфічныя праблемы. На жаль, не заўсёды некаторыя формы пратэсту грамадскасці можна назваць разумнымі. Гутарка перш за ўсё ідзе аб блакадзе ў ліпені мінулага года Хмяльніцкай АЭС. Дэманстрацыі з патрабаваннямі закрыць станцыі праводзіліся на Балакоўскай і Паўднёва-Украінскай АЭС. Апошнім часам узрос псіхалагічны ціск на персанал Ігналінскай АЭС. Падобныя дзеянні могуць адмоўна адбіцца на бяспечнасці ў рабоце станцыі і хутчэй нагадваюць гульню з агнём на парахавой бочцы, чым імкненне да ўзаемнага дыялога.

Становішча на суднах атамнага флоту выглядае больш спакойным, але таксама не бездакорным. Летась у эксплуатацыі знаходзіліся 11 ядзерных энергетычных установак на шасці ледаколах, што забяспечылі праводку суднаў у Арктыцы, і лíхтэравозе «Севморпуть», што перавозіў грузы на Далёкім Усходзе.

У цэлым ядзернае абсталяванне працавала дастаткова надзейна і не стварала сур'ёзных праблем для выканання плана навігацыі. І ўсё ж на атамным ледаколе «Сібір» было адзначана сем выпадкаў парушэння герметычнасці парагенератараў. У выніку камісія Дзяржпраматамнагляду СССР забараніла эксплуатацыю сілавой установкі гэтага ледакола да замены дэфектнага парагенератара. Спынена таксама эксплуатацыя ядзернага рэактара левага борта на «Арктыцы» з-за дасягнення гранічных значэнняў удзельнай актыўнасці першага контуру. Ледакол пастаўлены на планавы рамонт, на ім будзе заменена актыўная зона левага рэактара.

Да ліку іншых здарэнняў на суднах трэба аднесці 13 пазапланавых спыненняў ядзерных энергетычных установак, з якіх вялікая частка адбылася па віне персаналу. Ва ўсіх гэтых выпадках не было ніводнага, які мог бы прывесці да ядзерна- ці радыяцыйна-небяспечных сітуацый.

Усяго Дзяржаўным камітэтам СССР па нагляду за бяспечным вядзеннем работ у прамысловасці і атамнай энергетыцы ў мінулым годзе было выдадзена 18 прадпісанняў на абмежаванне магутнасці ці поўнае спыненне энергаблокаў з-за парушэнняў патрабаванняў па бяспецы. З 11 чэрвеня 1990 года і да сённяшняга дня дзейнічае абмежаванне ўзроўню магутнасці да 70 працэнтаў на шасці энергаблоках з рэактарамі РБМК першага пакалення на Курскай, Ленінградскай і Чарнобыльскай АЭС. Забаронена эксплуатацыя двух даследчых рэактараў у Алма-Аце і Тбілісі.

Мікалай ШТЭЙНБЕРГ, намеснік старшыні Дзяржпраматамнагляду СССР.

Іван САВЕРЧАНКА

# КАНЦЛЕР ЛЕЎ САПЕГА



17

VI

Пасада падканцлера вымагала ад Льва Сапегі штодзённага аналізу не толькі ўнутранага становішча Княства, але і міжнародных стасункаў. Кожны зрух, кожны паварот у палітыцы еўрапейскіх і бліжэйшых азіяцкіх краінаў натуральна патрабаваў адпаведных крокаў з боку ўладаў Вялікага Княства.

Так, у 1585 годзе падканцлера вельмі насцярожылі звесткі, што паступілі ў вялікую канцылярыю, аб намеры Максіміліяна, брата імператара Свяшчэннай рымскай імперыі Рудольфа, заняць маскоўскі прастол замест Фёдара. Саюз Свяшчэннай рымскай імперыі з Маскоўскаю Руссю нічога добрага не абяцаў для Вялікага Княства.

Каб перашкодзіць планам Рудольфа, Леў Сапега неадкладна падрыхтаваў і накіраваў у Маскву пасольства Гарабурды, які, пераняўшы дыпламатычны вопыт падканцлера, змог пераканаць рускіх баяраў у немэтазгоднасці паяднання Маскоўскай Русі з каталіцкім светам...

VII

Першага верасня 1586 года ў асабістым жыцці Льва Сапегі адбыліся перамены. Ён ажаніўся з Даротай Фірлеёўнай, аўдавелай пасля смерці князя Стафана Збаражскага. Матэрыяльнае становішча падканцлера ў гэты час, напэўна, выглядала не надта добра. Каб справіць вяселле, ён мусіў прадаць адзін са сваіх маёнткаў за 500 коп грошаў. Дарэчы, дакументы судовай справы Сапегі з панамі Гарнастаем ды Цеханавецкім ад 1586 года, занесеныя ў кнігі Метрыкі Вялікага Княства, таксама сведчаць аб

18

цяжкасцях і складанасцях у яго ўласнай гаспадарцы.

Пабраўшыся з заможнай удавой, спадчынніцай вялікіх багаццяў, падканцлер істотна павялічыў свой капітал.

Аднак нельга думаць, што шлюб Льва Сапегі і Дароты Фірлеёўны з'яўляўся вынікам меркантыльнага разліку падканцлера. Зусім не. Іх паяднала глыбокае ўзаемнае каханне. Праз усё нядоўгае сумеснае жыццё Леў Сапега і Дарота Фірлеёўна пранеслі трапяткое і чыстае пачуццё замілаванасці адно адным, нягледзячы на плёткі, што няспынна распускаліся некаторымі зайздроснікамі іх сямейнага шчасця.

VIII

Пасля нечаканай смерці другога снежня 1586 года ў Гародні караля і вялікага князя Стафана Батуры, па гістарычнай легендзе, атручанага некім з яго ворагаў, для Льва Сапегі пачынаецца амаль двухгадовы перыяд выпрабавання на мужнасць і палітычную сталасць.

Па прычыне адсутнасці манарха ў Рэчы Паспалітай узнік вастрэйшы грамадскі крызіс. Канвакацыйны (перадвыбарчы) Вальны Сойм, скліканы першага лютага 1587 года, засведчыў, што федэрацыю наперадзе чакаюць новыя беспарадкі ды непрымірымая барацьба між размаітымі дваранскімі групоўкамі.

Сваю важнейшую задачу падчас элекцыі падканцлер бачыў у тым, каб абараніць інтарэсы Княства і, нягледзячы на ўсеагульны ўпадак ды звычайныя для гэтакіх момантаў самавольствы ды анархію, дабіцца ўзвышэння Бацькаўшчыны. І ён, як паказалі пазнейшыя падзеі, дасягнуў пастаўленай мэты, найперш дзякую-

19

чы заўсёды прадуманым і ўзважаным крокам, неймавернай вытрымцы, моцнаму аналітычнаму розуму ды той палітычнай прадбачлівасці, якой прырода надзяліла яго спаўна.

Абранне манарха той ці іншай еўрапейскай краіны ў часы Льва Сапегі, звычайна, не з'яўлялася толькі ўнутранай справай асобнага гаспадарства. Амаль заўжды гэтая падзея станавілася ў цэнтры ўсяе еўрапейскай палітыкі. У Рэчы Паспалітай, дзе кароль яшчэ і выбіраўся, сітуацыя кожны раз узнікала няпростая. Па смерці Стафана Батуры на яе скіравалі свае погляды Аўстрыя, Швецыя ды Маскоўская Русь. Неўзабаве абвяўіліся і галоўныя прэтэндэнты на каралеўскі і велікакняжацкі прастол: аўстрыйскі прынц Максіміліян, рускі цар Фёдар Іванавіч ды прадстаўнік дынастыі Ягелонаў па жаночай лініі — Жыгімонт Ваза, якія пачалі шукаць прыхільнікаў сярод рэчпаспалітага дваранства.

Да вясны 1587 года арыентацыя розных палітычных сілаў Рэчы Паспалітай акрэслілася даволі поўна. Багатыя польскія магнаты Збароўскія падтрымлівалі кандыдатуру Максіміліяна. За Жыгімонта, сына шведскага караля Іаана III і Кацярыны Ягелонкі, унука знакамітага Густава Вазы, стаяла «Чорная Рада»* Замойскіх. Каралева Ганна Ягелонка пасля смерці мужа Стафана Батуры таксама лічыла свайго пляменніка Жыгімонта Вазу найлепшай кандыдатурай

* Прыхільнікі канцлера Замойскага, смуткуючы з нагоды смерці Стафана Батуры, падчас элекцыі апраналіся ў чорнае адзенне, адсюль і назва: «Чорная Рада».

20

на каралеўскі велікакняжацкі трон. Паны-рада Вялікага Княства, а разам з імі і Леў Сапега прапаноўвалі абраць каралём і вялікім князем рускага цара Фёдара.

На элекцыйным (выбарчым) Вальным Сойме, прызначаным на канец чэрвеня 1587 года, павінна была наступіць развязка.

Леў Сапега, як і большая частка паньства Вялікага Княства, рабіў усё, каб кандыдатура Фёдара атрымала большасць галасоў. Недзе ў студзені-лютым ён разам з Фёдарам Скумін... Крыштофам Мікалаем Радзівілам Перуно... ды Лукой Мамонічам прымае ў Вільні маскоўскае пасольства на чале з баярынам Ржэўскім, які прывёз царскія граматы да буйнейшых беларускіх магнатаў з просьбаю абраць Фёдара манархам Рэчы Паспалітай. Звяртаючыся да беларускіх паноў-рады, рускі цар, у ...ватнасці, заклікаў іх: «Вы б, паны-рада, св... і духоўныя, параіўшыся між сабою і з усімі сваімі землямі, паклапаціліся б пра дабро хрысціянскае і нас гаспадаром на Карону Польскую ды Вялікае Княства паждалі б...» У Маскве выдатна разумелі вынікі абрання каралём і вялікім князем Жыгімонта Вазы ці Максіміліяна, што па логіцы рэчаў стварала ўмовы для ваенна-палітычнага саюзу Рэчы Паспалітай са Швецыяй альбо Аўстрыяй. Менавіта каб перашкодзіць утварэнню новых небяспечных для Маскоўскай Русі дзяржаўных паяднанняў, рускі манарх згаджаўся, асабліва напачатку, на ўсе ўмовы Вялікага Княства.

Са свайго боку, Леў Сапега, імкнучыся скарыстаць зручны момант для ўзвелічэння Княства, паабяцаў Фёдару цераз яго паслоў усялякую падтрымку ў далейшым. «Мы ўсе жадаем,—

21

перадаваў Фёдар Скумін рашэнне паноў-рады рускім паслам,— каб нам з вамі быць разам навякі, каб гаспадар ваш панаваў і на нашых паньствах».

У красавіку 1587 года па ініцыятыве Льва Сапегі ў Маскву адпраўляецца пасольства князя Агінскага і Чарнікоўскага, з тым каб яшчэ раз папярэдне абгаварыць умовы, на якіх Княства згаджалася на абранне Фёдара Іванавіча каралём і вялікім князем. З пасольствам падканцлер перадаў рускаму манарху запра...не на элекцыйны Вальны Сойм, але цар, ...аючы аб тым, што выбары ў Рэчы Паспалітай, як правіла, канчаліся добрымі патасоўкамі, а то і сапраўднымі войнамі, вырашыў сам не ехаць, а накіраваў у Варшаву сваіх новых паслоў — баярына Сцяпана Васільевіча Гадунова, князя Фёдара Міхайлавіча Траякурава ды ...а Васіля Шчалкалава.

IX

Чацвёртага жніўня 1587 года на варшаўскім элекцыйным Сойме, куды Леў Сапега прыбыў са сваім узброеным атрадам (як, дарэчы, і ўсе астатнія, хто рыхтаваўся адстойваць сваіх кандыдатаў), адбылася сустрэча з пасламі Фёдара, якіх ён неўзабаве запрасіў для гутаркі з усім «рыцарскім колам». Падчас гэтае сустрэчы царскія паслы выявілі поўную інфантыльнасць і сваімі бязглуздымі дзеяннямі адпіхнулі многіх прыхільнікаў кандыдатуры Фёдара, сярод якіх, дарэчы, было нават многа палякаў. Прывучаныя адвеку слепа, па-лакейску выконваць волю свайго манарха, рускія баяры, апроч гэтага, яшчэ і саманадзейна не пагаджа-

22

ліся ледзьве не з усімі ўмовамі, на неадкладным выкананні якіх настойвала рыцарства. Нават далёка не прынцыповае патрабаванне беларускае шляхты ды дваран, каб цар пасля яго абрання каралём і вялікім князем праз дзесяць тыдняў, а ў выпадку ваеннай неабходнасці і раней, прыехаў у Рэч Паспалітую, выклікала пярэчанні з іх боку. З самалюбаваннем і традыцыйнай напышлівасцю паслы адказвалі: «У Варшаву цар прыедзе, калі пажадае». Пры такіх неабдуманых паводзінах паслоў Фёдару цяжка было разлічваць на поспех, тым больш, што ён адмаўляўся даць дзвесце тысяч рублёў на выплату даўгоў і абарону Рэчы Паспалітай, бо іншыя прэтэндэнты, як небеспадстаўна меркавалася, па завяршэнні элекцыі пачнуць даказваць свае правы на прастол з дапамогаю зброі.

Калі 19 жніўня партыя кароннага канцлера Замойскага нарэшце абвясціла каралём Жыгімонта Вазу, а Збароўскія — прынца Максіміліяна, дваранства Вялікага Княства дало яшчэ адзін шанц Маскве. З ведама Льва Сапегі беларускія радныя паны пісалі да рускіх паслоў: «Замойскі выбраў шведскага каралевіча,.. Збароўскія выбралі цэсаравага брата, а мы ўсе — ліцьвіны і большая частка палякаў хочам гаспадара вашага. Але затрымка толькі за вераю і прыедзем... Калі б нам быў хутка вядомы прыезд вашага гаспадара, мы б, абраўшы яго, у той жа час рушылі б да Кракава і кароны не далі б ні шведу, ні цэсараваму брату».

Апошнія словы «Пасланнія» — зусім не пустая фанабэрыя беларускага дваранства. Вялікае Княства мела дастаткова сілаў, каб узвесці

23

на прастол свайго абранніка. Неабвержным доказам таму служыць і «Пратэст» супроць абвяшчэння Замойскімі каралём Жыгімонта Вазы, падпісаны 31 кастрычніка 1587 года падканцлерам Львом Сапегам, троцкім ваяводам Янам Глябовічам ды ксяндзом Бенедыктам Войнаю. Толькі непаваротлівасць ды тугадумства рускіх паслоў, а мо і сапраўды нягодлівасць Фёдара звялі яго шанцы да нуля.

Нельга, аднак, не ўлічваць і яшчэ адное немалаважнае дэталі: намаганні самога Льва Сапегі ды і ўсіх іншых беларускіх дваран зусім не былі скіраваны на тое, каб, «ададраўшыся ад Польшчы», як пісаў падканцлер, безаглядна кінуцца ў абдымкі да рускага цара. Леў Сапега, ды і ўсе беларускія радныя паны выдатна ўсведамлялі, што няволя з усходу не лепшая за небяспеку з захаду. Падканцлер не быў такой простай і надта даверлівай асобаю, як падавалася іншым з яго сучаснікаў ды некаторым цяперашнім гісторыкам. Жыццё навучыла яго асцярожнасці. Нават залішне мудрагелістыя пасткі, расстаўленыя яго ворагамі, ён абыходзіў не параніўшыся, адчуваючы адмысловыя падкопы праціўнікаў на адлегласці.

Заканамерна ўзнікае пытанне, чаму ж тады Леў Сапега так актыўна, прынамсі напачатку, падтрымліваў кандыдатуру рускага цара, хаця гэта быў вельмі небяспечны для Княства шлях? Логіка дзеянняў падканцлера — чалавека, адданага беларускай ідэі, патрыёта сваёй радзімы, падчас гэтых складаных гістарычных абставінаў становіцца зразумелай якраз толькі тады, калі ўлічваць асноўную мэту яго палітычнай дзейнасці — імкненне да поўнай незалеж-

24

насці Вялікага Княства, яго ўзвелічэнне і росквіт.

Леў Сапега бясспрэчна добра ведаў пра магчымыя негатыўныя вынікі аб'яднання Вялікага Княства з Маскоўскаю Руссю. Наконт саюзу з іншымі, перад тым варожымі дзяржавамі, у падканцлера меўся багаты вопыт,— найперш узаемаадносінаў беларускага гаспадарства з Польшчай, слабыя і моцныя бакі якіх ён звedaў на сваёй шкуры.

Але застаючыся палітыкам, Сапега бачыў і выключнасць таго становішча, што ўзнікла ў Рэчы Паспалітай. Целкам аддадзены ідэі стварэння моцнай беларускай дзяржавы, падканцлер і ў такой сітуацыі працаваў менавіта на яе. Добра інфармаваны ў «маскоўскім пытанні» і ведаючы рэальныя абставіны значна лепей за многіх сваіх сучаснікаў, ён разлічваў на адсутнасць у цара Фёдара мажлівасці, у выпадку яго абрання каралём і вялікім князем, займацца праблемамі Вялікага Княства. Акрым таго, Леў Сапега, выдатна дасведчаны ў псіхалогіі ўлады, слушна меркаваў, што Фёдар ніколі, ні пры якіх абставінах не пакіне надзейны, спадчынны трон у Маскве і не рызыкне пераехаць у Рэч Паспалітую, дзе яму непазбежна давялося б сутыкнуцца са шляхецкай дэмакратыяй, да якой маскоўскія манархі, вядома, зусім не былі прывучаныя. А калі б такое і здарылася, то ўсё роўна хварэйты рускі цар, па глыбокім перакананні падканцлера, не змог бы сур'ёзна ўплываць на палітыку беларускага ўрада.

**Працяг. Пачатак у №№ 7, 8.**

Янка БРЫЛЬ

# МУШТУК І ПАПКА

## МАЛЕНЬКАЯ САГА

У канцы сорак дзевятага года, пад націскам падазрэнняў ды паклёпаў вакол маіх уцёкаў з палону і «сацыяльнага паходжання», спалохаўшыся горшага, мы з Мішам пераглядзелі тое, што ў акупацыю закопвалася. Сёе-тое яшчэ давялося спаліць, каб «у выпадку чаго лішне не ўскладняць біяграфію». Маю, вядома. Я ўжо не раз пашкадаваў, што мы тады так зрабілі. На добры лад, можна было зноў схаваць гэта недзе да лепшага часу. Ды хто ж яго так ужо спадзяваўся? А ў страха вочы заўсёды вялікія.

Даваенная перапіска не захавалася. Захаваліся фотаздымкі. Што ў нас, у сем'ях сёстраў і братоў, што ў сваякоў па розных вёсках ды гарадах.

Я і пачну з адной дарэвалюцыйнай фатаграфіі.

Ніжняя палавіна здымка наўскасяк адарвалася і прапала. Знаёмы фатограф перазняў яго так, што як быццам яно з тым абрывам так было і задумана. На ацалелай палавіне — бацька і абодва старэйшыя браты, пазней, на працягу нашых вясковых гадоў, для нас, трох меншых, дзіўна замежныя...

Думкі, згадкі адны, паасобку не ходзяць. Над гэтым здымкам-паўздымка я летась быў неяк задумаўся, успомніўшы Жукоўскага з той гарышчанскай карзіны — дванаццацітомны збор твораў у чатырох кнігах, акуратна, моцна пераплеценых. Жыва ўявілася, як і калі гэтае багацце магло быць куплена: ці яшчэ тады, калі яны, хлопцы, вучыліся ў Міры, у гарадскім вучылішчы, ці тады, калі былі ў Адэсе гімназістамі?.. Трэба сказаць, што хоць Ігнат малодшы на паўтара года, вучыліся яны ўвесь час вобруку, і ў загорскай царкоўнапрыходскай, і ў гарадскім, і ў класічнай гімназіі, і ў сельскагаспадарчым інстытуце. Чамусьці найцяплей мне думаецца, што здымак зроблены тады, калі яны закончылі гарадское і прыехалі паступаць у гімназію.

Бацьку — сорак чатыры. Ён пасярэдзіне. Абняў у поясе старэйшага, стройна-высокага пятнаццацігадовага Валодзю. Меншага бацька называў па-гарадскому Ігнашай, а імені Ігнат, Игнатий па святцах, не любіў. Меншы ці самахоць, ці па ўдалай падказцы фатографа абняў аберуч бацькаву левую руку, на локцевым згібе, і злёгку прытуліўшыся да гэтай дужай і добрай рукі з ледзь не дзіцячым яшчэ, чыстым, сур'ёзным выразам твару. Падлетак на чатырнаццатым годзе.

Усмешка ў мяне. Ад таго, што нядаўна расказваў Шура, Ігнатаў адзіны сын, на шэсць гадоў маладзейшы за мяне пляменнік. З бацькавых слоў успомніў ён, як тыя два выпускнікі местачковага вучылішча пайшлі ў Адэсе на славуты базар Прывоз, а там купілі «сініх», баклажанаў, вельмі ж смачных з выгляду, і паспыталі іх на хаду, і ўпотай пляваліся.

На хлопцах строгія цёмныя гімнасцёркі, шырокія рамяні з адпаведнымі спражкамі. З якімі «сімваламі» на іх, наогул чыя гэта форма — ужо і спытацца няма ў каго. Усе мае знаёмыя, што ў розны час вучыліся ў гарадскім, паадыходзілі ў вечную памяць.

Зноў адхіленне ў мяне. У адзін час з нашымі ў Міры вучыўся Уладзімір Жылка, у сталасці — таленавіты, культурны паэт і таксама сталінскі асуджэнец. Над старонкамі грунтоўнай кнігі пра яго жыццё і творчасць мне прыемна і сумна думалася і зноў вось думаецца, што яны, падлеткі з Загора і Макашоў, і зналіся, і сябраваць маглі...

А галоўнае, што, гледзячы на абарваны здымак, уявілася, дык гэта ўзаемнае шчасце: хлопцам мець такога бацьку, а яму — такіх сыноў.

Па гімназічным «Свидетельстве» за шосты клас, прысланым сёлета мне з архіва адэскага сельгасінстытута, можна меркаваць, што Валодзя літаратуру любіў. Паміж двух «хорошо» і дзевяці «удовлетворительно» горда ўзвышаецца адно «отлично» —па рускай мове і «Словесности» (там гэта з вялікай літары). Аднак большым кніжнікам мне бачыцца Ігнат. Таму што і вершы яго, юнацкія і пазнейшыя, я чытаў, і ў перапісцы нашай з ім у 1944—1960 гадах бывала гаворка пра літаратуру. У яго— Дастаеўскі, о! «А вы, инженеришки человеческих душ, мелко плаваете». І непасрэдна гутарылі мы з ім пра любімыя кнігі ў летнія дні сорак шостага года, калі ён са сваім Шурам, студэнтам, нядаўнім афіцэрам-франтавіком, гасцявалі ў мяне ў Мінску і ў вясковых родзічаў. Са здымка мне ўявілася, што хлопец, які абнімае бацькаву руку, што іменна ён просіць у нашага папы (па-гарадскому ўсё) грошай на той поўны збор Жукоўскага, які значна пазней і мне даў нямала высокае асалоды. Просіць, добра ведаючы, што адмовы не будзе, як ніколі не было. А бацька дае, як даваў і будзе даваць, з тою шчаслівай гордасцю, якую мог ведаць сын патомнага «дваровага» мужыка, што так шчасліва выбіўся ў людзі: праваднік першакласных вагонаў!..

І яшчэ адно, ужо зусім сваё, тады мне адчулася — жаль, што на маю долю дружбы з бацькам прыйшлося так мала...

Ранейшых здымкаў Валодзі і Ігната не захавалася, а быць яны, трэба думаць, былі. Як было ў іх і маленства, якое праходзіла там, дзе і маё, наша з Мішам (другая дружная пáра), і іхнія ўспаміны пра маленства мне ў асноўным не вельмі цяжка ўявіць. Тое, што ўспаміналася аднаму з іх на таежным лесапавале, на будаўніцтве Беламор-канала, а другому за перадсмяротнымі кратамі, у горадзе з паэтычнай назвай Белая Царква. Дашкольнае і школьнае маленства ў родным Загоры, у старадаўнім Міры, з яго замкам і паркам, з шумнымі кірмашамі, дзе так цікава было патаўчыся, з царквой, у якую іх, «гарадскіх», вадзілі, з касцёлам, у які з'язджалася навакольнае панства, з сінагогай і ешыботам, каля якіх існавала многа пейсатых «падрабінкаў», сваіх і замежных, з мячэццю для агароднікаў і кажушнікаў татараў. Было дзевяць вёрстаў дахаты, стары гасцінец, па якім у свой час нямала выхадзіў ды выездзіў і я...

З матчыных расказаў пра зусім малога Валодзю помніцца тое, як ён, дачакаўшыся бацькі з Адэсы, спаць лажыўся, абдымку з яго чыгуначніцкай шапкай,— каб той ноччу не ўцёк у свой далёкі таямнічы Горад, каб потым зноў так доўга не прыязджаць. І такое яшчэ — як ён аднойчы, ужо крыху старэйшы, некуды знік, прапаў, і мама была ў вялікай трывозе. «Можа, дзе ў Каралевец, ці то з віціннікамі заплыў?!» Ад гэтага сказа, які дакладна запомніўся, добра пахне мне роднай гісторыяй. І Каралевец, а не Кёнігсберг, і віціны, віціннікі, да якіх на Нёман, шэсць вёрст па нашай ціхай лугавой Вушы, не наўда і дабрацца. Прынамсі, ва ўяўленні запрацаванай, спалоханай маладзіцы. Яшчэ ж і гаварылася — і тады, і ў маім маленстве: «Лусту адкрою табе тоўстую, як віцінніку!..» Чалавеку цяжкай працы.

Малы Ігнась не толькі вучыўся лепш за Валодзю, гультаяватага «бацькавага пестуна», не толькі пайшоў у школу не зусім шасцігадовым, але наогул быў у нейкай меры вундэркіндзікам. І сястра Віліта, і наш сусед Алесь Шут, калі яны ў сорак шостым сустрэліся з Ігнатам у Загоры і трохі паўспаміналі свае школьныя гады, весела называлі яго, пажылога ўральскага выкладчыка, Сусаніным. Гэта іх першая настаўніца так яго называла, калі на праходцы з вучнямі па зімовых сцежках пускала яго першым у ланцужку малечы. Гноміка ў гарадскім башлыку.

Мама расказвала і пра яго «распусту».

У наваколлі нашым былі тады маёнткі ды маёнтачкі. У адным з большых, што называўся Уцехай, у пана Анцуты быў аканомам беларус Дзядзюшка. Ездзіў на пары, у брычцы, і для вёскі быў панам. І вось аднойчы з чародкі малых, калі гэты пан ехаў ступою, наш Сусанін гукнуў на яго: «Дзядзюшка-пярдзюшка!..» А сам наўцёкі. Пан аканом не паленаваўся спыніцца, спытаўся ў дзяцей, чый гэта хлопец, зайшоў у наш двор, балазе недалёка, і паскардзіўся гаспадыні, нават і пакрычаў. Маці знайшла распусніка і, хоць пан ужо і пайшоў, дала дурноце махроў. Яна не толькі потым, удавою, ужо для Мішы і мяне, была ў выхаванні строгай.

Яшчэ пра сябе, гледзячы на другіх.

Думаю вось, якія ў нашага бацькі былі пачуцці да Валодзі, першага сына, і якія да мяне, апошняга? Пасля дзвюх дочак, калі адной было пяць, а другой тры, — нарэшце першы сын!.. А я нарадзіўся, калі яму было сорак сем. Пра гады, якія мне вельмі мала помняцца, пазней, калі ўжо бацькі даўно не было, мама неяк успамінала: «З каленяў не спускаў, па галоўцы ўсё гладзіў». І першы здымак такі, трошкі на трэцім годзе — на бацькавых каленях.

У «Птушках і гнёздах» раздзел «Падарожжа ў найлепшае» і тая сцэна ў ім, дзе смяротна хворы бацька, калі мы былі адны ў хаце, прасіў мяне маліцца за яго, бо «молитва ребенка услышится», напісана з памяці, без выдумкі.

Я не мудрую з кампазіцыяй і тут — гэта проста частка ўспамінаў з тых леташніх сакавіцка-красавіцкіх дзён, калі — ад званка да наведання Быкаўні, да спаткання з Валодзевай справай — нямала думалася пра адно. І запісы рабіліся.

Я, вядома, хацеў ехаць у Кіеў адразу, аднак абодва карэспандэнты «Литературной газеты», якія былі мне там неабходныя для пачатку, службова выязджалі на даўжэйшы час, пасля я недарэчы прастудзіўся, а затым надарылася зручная прычына пабываць і ў Адэсе, і ў Кіеве, а можа, думалася, і ў Белай Царкве, — мяне запрасілі на Шаўчэнкаўскае святочнае падарожжа ў палавіне мая па Дняпры, ад самага Чорнага мора.

### МАЯ АДЭСА

Трэба вярнуцца ў жнівень сорак дзевятага.

Тады мне было трыццаць два, жонцы дваццаць восем, а нашай Галі, старэйшай, няпоўных чатыры. Да гэтага часу малая паспела шмат адпакутаваць. Блізу год ляжала ў пасцелі, ад каленяў да грудзей закаваная ў гіпсавую шкарлупу, поўзала ў ёй, як чарапаха, па падлозе, да болю жаласліва прасілася «на ручкі», а потым, вызваленая з гіпсу, зноў пачала вучыцца хадзіць. Пажылы, культурна дасціпны прафесар, які і наша дзіця выратаваў ад калецтва, павіншаваў мяне з перамогай і загадаў:

— У Крым, таварыш дарагі, у Крым!..

Жнівень, амаль да канца праведзены намі ў краі шчодрага сонца і цёплай вады, якая дзень-ноч набягала то меншымі, то большымі хвалямі на чысценькі мяккі пясок, прайшоў надзвычай хутка. Ды ўсё ж дзяўчынка наша паспела добра загарэць, пасмялець у хадзе і «аддаць рыбкам» ледзь не ўвесь запас сваіх трусікаў, якія ласкавае мора ахвотна брала з яе вясёлых рук.

І вось мы вяртаемся. Ужо не едзем у вагоне, як сюды, а плывем. На палубе цеплахода — маленькая малпа Яшка, якою ўвесь дзень заняты многія пасажыры, асабліва такія, як наша. Яна — пад пільным, шчаслівым наглядам мамы. А мне прыемна стаяць бліжэй да самага носа нашага судна, паміж спакойным морам і ясным небам Поўдня...

Цеплаход ідзе з Феадосіі ў Адэсу, у мой сямейна легендарны горад. Мы начавалі ў ялцінскім порце, потым на рэйдзе перад Еўпаторыяй, і вось набліжаемся да канца цудоўнага марскога падарожжа, першага ў маім жыцці.

«Дэльфіны любяць музыку». Пра гэта і чыталася, і чулася. А тады, у сорак дзевятым, іх было вельмі многа.

Пазней я бываў на Чорным моры або каля яго даволі часта, і з захаду, і з усходу, перасек з поўдня на поўнач, і ніколі не бачыў столькі дэльфінаў за адзін раз. На шляху Стамбул — Адэса мы двойчы спыняліся на ноч, у Варне, і ў Канстанцы,— з асцярожнасці, бо і тады яшчэ, увосень пяцьдзесят шостага, лепш было пабаяцца не да звання вылаўленых мін. Не памятаю, ці падумаў я тады, як думаецца цяпер, калі пішу гэта: як жа іх абыходзілі разумныя, гуллівыя прыгажуны яшчэ на сем гадоў бліжэй да другой сусветнай?

Святочна помніцца мне той першы падыход ад адэскага порта. Уваход у пачатак жыцця, у першую, гарадскую палавіну маленства. На раскошна пагодлівым захадзе сонца, пад прывольна-пяшчотную мелодыю і словы новай тады песні «В тумане скрылась милая Одесса» дэльфіны суправаджалі наш разрумянены сонечным развітаннем цеплаход нібы ганаровы эскорт. Выныравалі, ныралі, зноў выныравалі, як вывінчваліся з чысценькага прадоння ў высока іскрыстых усплёсках, і толькі што не перагукваліся радасна з усіх бакоў, паміж сабой і з людзьмі, што ўсе былі на палубах, што ўсе заслуханыя ў музыку, як і яны...

Сустрэчы, а лепш сказаць — знаёмствы з роднымі мы, позна ўладкаваўшыся ў гасцініцы, пачалі назаўтра зранку. І з самага галоўнага — з дзядзькі Паўла.

У нашага бацькі родных братоў не было, у дзядзькі таксама, і яны дваюрадныя, дружылі лепш за іншых родных. Дома мы дзядзьку не засталі. Людзі, што жылі пры ім, у другім пакойчыку двухпакаёвай кватэры, на здзіўленне нам сказалі, што ён — семдзесят восем гадоў! — на рабоце... То за ручку з Галяй, то на руках з нашай курортніцай мы паддаліся на вакзал, балазе туды з Вазнясенскага завулка, з маленства памятнага па назве, недалёка.

Шматпакутны ён быў чалавек, дзядзька Павел. Старэйшага сына, у грамадзянскую чырвонаармейца, белыя захапілі ў палон і замучылі. Таксама з маленства памятаю тое жахлівае, што чуў — пра пяцікутныя зоркі, павыразаныя на жывым чалавеку. Адзіная дачка памерла ад сухотаў, пакінуўшы бацькам малога сына. Ён памёр, калі ўжо нас у Адэсе не было, на тое самае, што і маці. Цётка Марта памерла ў акупацыю. Малодшы сын, ніколі мною не бачаны траюрадны брат, інжынер «по мукомольному делу», жыў далёка ў Данбасе. Забраў быў бацьку, калі той зусім састарэў, але ён там не прыжыўся: «Разведзены жаніўся на разведзенай, з дзецьмі ад першага мужа,— ну што яны мне за родзічы?..» Так ён пісаў у Загора Віліце.

Мы знайшлі яго на пероне. Сівы дзядок у форменнай шапцы і тужурцы,— не ў такім, праўда, шыку, як на даўнейшых здымках з нашым бацькам,— сядзеў на табурэтцы каля брамкі, правяраючы перонныя білеты. Калі мы ўтраіх спыніліся каля яго, адбыўся такі дыялог:

— Добрый день! Вы Павел Осипович Брыль?

— Да, я. А вы кто будете?

— Узнавайте.

Ён паглядзеў на мяне больш уважліва і абыякава крутнуў галавой:

— Не знаю вас.

— Я — Ваня, сын Антона Даниловича.

— Голубчик!— з усхліпам крыкнуў стары, нялёгка ўсхапіўся і працягнуў да мяне дрыготкія рукі.

І вось я ўжо плачу, пішучы гэта, убачыўшы побач з дзядзькам свайго бацьку, адчуўшы цеплыню іх адносін.

З усяго даваеннага ліставання Загора з Адэсай, цераз граніцу, для дарослых тады зусім незразумелую, нейкім цудам захавалася ў мяне бацькава пісьмо дзядзьку, напісанае 6 снежня 1923 года, вечарам на зімовага Міколу, роўна за тры месяцы да бацькавага перадсмяротнага «духовного завещания», якое таксама ёсць у мяне. Пісьмо чамусьці не адаслана было. Яно пачынаецца словамі «Дорогой братец Павел Осипович», а далей, з усёй кранальнай непісьменнасцю бацькі адукаваных дзяцей (на ўвазе маю старэйшых братоў), яно расказвае, як жылося тады, калі чалавек вярнуўся туды, адкуль падаўся ў свет, як думалася — назаўсёды. Вось урывак з таго вялікага і шчырага, як апошняя споведзь, паслання:

«...А мне скажу Павлуша скажу откровенно живется несладко а хуже всего что здоровья нет больше болею чем здоров а еще досадно и трудно терпеть недостатки коник паршивеньки и его мучу и себя земля твоя запущена обрабатывать с трудом ох голубчик от жизни остались только воспоминания а жизнь похоронена не знаю как живется тебе там а здесь деревня была есть и будет деревней а нам разоренным и без денег приехавши в голыя старыя углы это не жизнь а пытка все жалеем что уехали...»

«Голубчик Павел», нягледзячы на дружбу з «голубчиком Антоном», — а слова гэтае было ў іх як быццам адно на двух,—у Загора разам не вярнуўся. Ён быў па натуры яшчэ больш за нашага невясковы, хоць і не такі энергічны ды абароцісты. Можна сказаць: мядзведзь наадварот — бо ён, калі ажаніўся, мерыўся па нагаворы жонкі і радні заняцца гаспадаркай, але ўздыхаў: «Эх, каб гэта ж так, як мядзведзь на зіму, заснуць на ўсё лета, а на зіму прачнуцца і — на цёплую печ!...»

Праўда, карэнне вясковае ён, застаўшыся ў горадзе, не абсякаў. На сваю зямлю прыслаў нам заверанае польскім консульствам у Кіеве даручэнне на часовае карыстанне — усё ж з надзеяй на славуты «ўсякі выпадак». Польскія ўлады спрабавалі зямлю тую ў нас забраць, як маёмасць чужынца, а мы судзіліся з казной аж да прыходу іншай улады. Тады ўжо Міша, польскі салдат, які па абмену вярнуўся з нямецкага палону ў лістападзе трыццаць дзевятага, пайшоў з тым даручэннем у сельсавет: бярыце, таварышы, зямлю савецкага грамадзяніна. Шнуры тыя пайшлі па людзях, а Міша з Колем былі рады, што так цяпер не раскулачаць, не вывезуць, хоць на гэта і свайго ўласнага хапала, а на дадатак — я быў у Германіі...

Працяг. Пачатак у № 8.

*ЗНАЁМІМ З ТВОРЧАСЦЮ МАЛАДЫХ*

# ПЛЁННАСЦЬ ПТУШЫНАГА ШЛЯХУ

ЯКРАЗ праходзіла ў Доме літаратара нарада кіраўнікоў літаратурных аб'яднанняў рэспублікі. Здаецца, адбывалася гэта ў 1988 годзе. Была парушана традыцыйная завядзёнка, і замест саміх пачаткоўцаў, як гэта практыкуецца штогод, запрасілі тых, хто дапамагае ім рабіць першыя творчыя крокі. Пакрысе закіпелі страсці. Кожны імкнуўся выказаць сваю думку, якую, вядома, лічыў адзіна правільнай. Ледзь не кожнаму падавалася, што маладых аўтараў крыўдзяць у рэдакцыях газет і часопісаў, тым больш — у выдавецтве.

Да ўсяго, літаратурная суполка «Тутэйшыя» спрабавала паставіць сябе вышэй за іншых. Асабліва стараўся Анатоль Сыс, якому жадалася (і не толькі яму, бо пасля кожнай рэплікі сябры, якія знаходзіліся тут жа, дружна пляскалі ў далоні ці ў знак згоды, адабрэнняківалі галовамі) самому ўзяць кіраўніцтва над «раёншчыкамі». Тыя, праўда, на такое апякунства ніяк не ішлі.

Разумеў, па ўсім, гэта і сам А. Сыс. Не мог не адчуваць, што выказванні аднаго яго, хоць і выражалі яны думку ўсіх «Тутэйшых», выглядаюць крыху «аднаасобна», таму раз-пораз ратаваў становішча. Чулася ледзь не ў форме загаду: «Воля, пачынай!» ці нешта падобнае, і сімпатычная дзяўчына ў прамым сэнсе кідалася ў атаку, бэсцячы «бюракратычны» апарат СП БССР.

Яшчэ падумалася: «Ды не Сысу ёю камандаваць, дзяўчынай гэтай, а самой Волі Анатолем». Але, відаць, «Тутэйшыя» захоўвалі субардынацыю. Лідэр ёсць лідэр, і да яго слова не толькі прыслухоўваліся, але і прымалі як няпісаны закон.

Пасля гэтай нарады ў нейкім новым святле паўстала аблічча маладой паэтэсы Волькі Куртаніч. Гэта ж яна, Воля, горача адстойвала ўсё, што, на яе думку і думку «Тутэйшых», можа і павінна садзейнічаць адраджэнню нацыянальнай культуры. І не на словах, а на справе. Гэтаксама і вяртанню мовы — не толькі на старонкі друку, але і ў паўсядзённы ўжытак. А што не абыходзілася без рэзкасцяў, эмацыянальных перабораў, дык прычына не ў адным юначым максімалізме, асаблівасцях характару. Хоць і не без гэтага, зразумела. Не апошнюю ролю адыгрывала тое, што В. Куртаніч вымушана была прайсці рознымі сцяжынкамі, пакуль адчула: менавіта беларуская зямля — яе сапраўдная радзіма, хоць нарадзілася дзяўчына ў горадзе Качканар Свярдлоўскай вобласці.

Набыццё ж радзімы — адначасова далучэнне да беларускай мовы. Яно таксама праходзіла не зусім проста. Канечне, не прайшла марна вучоба ў адной са жлобінскіх сярэдніх школ, на філалагічным факультэце Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, але ж на той час, хоць і адбывалася гэта не так даўно, неабходна было ў асноўным разлічваць на ўласныя сілы, самому да ўсяго даходзіць. Што ж зробіш — русіфікацыя адчувалася на кожным кроку, не гаворачы ўжо пра такія «інтэрнацыянальныя» гарады, як Жлобін і Гомель. У іх сапраўды жывуць прадстаўнікі самых розных нацыянальнасцей. Ды толькі ўсе яны шанавалі сваю мову, звычаі, за выключэннем многіх беларусаў, якія адцураліся ад свайго роднага, кроўнага, нацыянальнага.

Пакуль яны вагаліся, як і што рабіць далей, небеларуска В. Куртаніч станавілася беларускай. У рэшце рэшт пра гэта яна расказала ў сваіх першых вершах, паасобныя з іх з'явіліся ў рэспубліканскай перыёдыцы ў 1986 годзе. Найперш пра мову, у тым ліку ў адным са сваіх лепшых твораў «Да Вашага імя», прысвечанага Л. Геніюш.

Пакутная душа шукала гэткую ж душу. Шукала і знайшла:

**Я размаўляю з Вамі на мове**
**Продкаў Вашых,**
**мае ж не адсюль.**
**Новая мова — гэта няўлоўна.**
**...Суполка ...сябрына**
**...ці пошчак куль.**

Звярніце ўвагу, як ашчадна адбірае аўтар словы, пасапраўднаму самабытныя, я б сказаў, нерушавыя. І не яе віна, што ў гэтым радзе поруч стасуюцца самыя розныя па свайму семантычнаму гучанню: «...суполка ...сябрына ...пошчак куль». Жыццё ёсць жыццё. Галоўнае, што выбар зроблены, раз і назаўсёды. Пра гэта і гаворыцца далей вершы:

**Я прыняла яе так балюча, —**
**Як хрысціянства нашы дзяды;**
**Як застарэлыя — з церняў**
**калючых**
**На целе Хрыста пакуты**
**сляды.**

Уваходзіны ў саму мову, а шырэй — у нацыянальную стыхію працягваліся. Адкрыццё вабнасці новага ўзмацнялася, доўжылася радасць судакранання з пакуль што нязвычным, але такім дарагім. Паэтэса разумела: «Беларускай старонкі вецер дзеля тых, хто на раздарожжы...». Права, так сказаць, на ўзаемнасць было ўжо заваявана, хацелася і іншых «узяць» у сваю веру. Таму прызнавалася: «Край мой бацькоўскі, родны — гасцёўняй стаіш пры дарозе» («Сон»). Таму так хацела знайсці аднадумцаў, шукала іх, як бачна з верша «Я іду»:

**Калі ты мяне**
**захочаш**
**Сустрэць у віры нотоўпу**
**Я буду праходзіць з кніжкай**
**Што ў простай класічнай**
**вокладцы**
**«З друкарні пана Марціна**
**Кухты».**

І ўжо голас лірычнай гераіні прабіваўся скрозь фальш паўсядзённасці, нацыянальны нігілізм, шукаў паратунку ў еднасці. В. Куртаніч звярталася да кожнага, у каго не пагасла сумленне, хто гатовы яшчэ абудзіцца ад сну бездухоўнасці:

**Адчыніце дзверы, людцы,**
**Адусюль хай далятае:**
**Словы родныя куюцца...**
**Кросны родныя снуюцца...**
**Песні родныя пяюцца...**
**Мова,**
**Мова**
**Нас вітае!**

Вітанне гэтае так і выплёскваецца цераз край, калі перачытваеш першую кніжку В. Куртаніч «Птушыным шляхам», нядаўна выпушчаную выдавецтвам «Мастацкая літаратура». Вершам папярэднічае прамоўка Тамары Чабан «Вяртанне з выраю», напісаная і ўхвальна, і адначасова цвяроза-аб'ектыўна. Падрабязна сказана і пра тое, што назва зборніка невыпадковая. І не адно ў дачыненні да самой паэтэсы — «у гэтым вобразе адбіўся не толькі лёс В. Куртаніч,.. але і лёсы цэлага пакалення юнакоў і дзяўчат, якія нарадзіліся і жылі ў Беларусі, нібы ў выраі, у духоўнай эміграцыі, фактычна не ведаючы свае радзімы, мовы, культуры і гісторыі свайго народа».

Сапраўды, як піша Т. Чабан, «вяртанне з выраю праз акіян бязмоўя, прорвы бяспамяцтва, горы хлусні, раўнадушша, адчужанасці». Т. Чабан нават называе кніжку В. Куртаніч «драматычнай споведдзю пакалення». З нацяжкай падобнае параўнанне, вядома, прыняць можна. І ўсё ж, бадай, нельга не адзначыць, што лёс самой В. Куртаніч далёка не ардынарны, таму ён нават не заўсёды ўпісваецца ў гэтую абойму — пакаленне.

Перад намі асоба эмацыянальная, у нечым экспрэсіўная, катэгарычная, але ж мы добра ведаем, як няпроста такім людзям у жыцці. Па той хоць бы прычыне, што яны не такія, як усе. Чым уважлівей чытаеш творы, тым больш адчуваеш гэтую непрыкаянасць лірычнай гераіні В. Куртаніч. Радасць ад таго, што ёсць мова, якую шукала, поўніць сэрца:

**Я з табою знайшла Радзіму,**
**Свае лепшыя думкі і словы.**
**...Як балюча выходзіць**
**дзіва —**
**Дзіцянятка маё,**
**Ты — мова.**

Поруч жа — душэўная адзінота, хоць бы ў гэтым вершы з характэрнай назваю «Я»: «Сонца прыгрэе?.. Халоднаю жыць буду да скону без слоў і жаданняў. Косы слізгаюць уніз, як вужы; душаць мяне на халодным змярканні». Відаць у гэтых пакутлівых перажываннях неабходна шукаць прычыну такога частага звяртання да Бога (напрыклад, «Ты выбіраеш ахвяру? Бяры маё цела, Госпадзь!», «цела не хоча ведаць людзей, а розум жадае боскасці»), упамінання Хрыста, пастаянных інтэрпрэтацый на тэмы жыцця і смерці.

Як ні прыглядайцеся да лірычнай гераіні В. Куртаніч, а яна наша сучасніца. У многім больш абвострана ўспрымае ўсё, што дзеецца ў жыцці, але адначасова не можа пераступіць мяжу закладзенага самой прыродай. Пакутуе, перажывае, шукае духоўнае прыстанішча. У той жа час застаецца паэтэсай. Не «зрывы ў крык, у экзальтацыю», як прыкмеціла Т. Чабан, усё ж галоўнае, а валоданне словам. І яно няпроста даецца, бывае, што верш «не слухаецца», але лепшыя творы В. Куртаніч — сведчанне, што яна можа гаварыць па-свойму.

Умее дакладна перадаць, як «на шляху Птушыным пачынаюць загарацца ліхтарыкі і сцізорык месяца адразае акраец ад бохана ночы», як «кудлачыць цемра месячны тканы пас»... Яна часам яшчэ як бы на раздарожжы, шукаючы сябе ў свеце і сярод людзей. І разам з тым яна ўжо добра і пэўна ведае, што як бы далей лёс ні складваўся, «свае лепшыя думкі і словы» аддала, аддае і будзе аддаваць Беларусі.

У гэтым і плённасць птушынага шляху: вяртанне з выраю на Бацькаўшчыну.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

# ЯК ЖА ТЫ СВЕТ УПРЫГОЖЫЛА

У выдавецтве «Беларусь» падрыхтавана да друку манаграфія аб жыццёвым і творчым шляху народнай артысткі СССР і БССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР, майстра опернай сцэны, выдатнай спявачкі і артысткі, нястомнага збіральніка, прапагандыста і выканаўцы беларускай народнай песні, таленавітага рэжысёра і вядомага грамадскага дзеяча, адной з заснавальніц Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР Ларысы Александроўскай. Па плану кніга павінна выйсці з друку ў 1991 годзе. Яна багата ілюстравана. У ёй будзе змешчана каля ста пяцідзесяці фатаграфій, большасць з якіх чытач убачыць упершыню.

Назва манаграфіі «Як жа ты свет упрыгожыла» — гэта радок з песні «Ты мне вясною прыснілася», напісанай кампазітарам Юрыем Семянякам, а эпіграф — вершаваныя радкі Канстанцыі Буйло: «Я не спяваць не ўмею, не магу! Паветра ўсё наўкола песняй дыша...»

Сярод дзеячаў беларускай культуры, чыя творчасць была цалкам аддадзена свайму народу, адно з пачэсных месцаў належыць Александроўскай. Яе імя стала легендай у музычным жыцці рэспублікі. І не дзіва, што за непараўнальна пр[illegible]жы голас, высокае выка[illegible]ае майстэрства спявачку звалі беларускім салаўём, у народзе яе ласкава звалі нашай перапёлачкай, як лепшую выканаўцу беларускай народнай песні «Перапёла[illegible]».

У мастацтва [illegible]лександроўская прыйшла быццам ранняя вясна — сонечная, квітнеючая і непаўторная. Вобраз артысткі знайшоў яркае адлюстраванне ў творах жывапісцаў, графікаў, скульптараў, шматлікіх артыкулах музыказнаўцаў, пісьменнікаў,

Мне, аўтару гэтай манаграфіі, пашчасціла быць асабіста знаёмым з Ларысай Пампееўнай, слухаць Александроўскую ў многіх оперных партыях, прысутнічаць на канцэртах з удзелам гэтай выдатнай спявачкі, наглядаць за яе рэжысёрскай работай, гутарыць аб праблемах беларускага мастацтва. Многія оперныя партыі, апісаныя ў манаграфіі, былі ўзноўлены разам з Александроўскай.

Сіла і веліч мастацтва артысткі перш за ўсё ў глыбокай народнасці яе творчасці. Калі слухаеш народную песню ў выкананні Александроўскай, то здаецца, быццам у голасе спявачкі гарманічна сплятаюцца чысціня беларускіх рэк, празрыстасць азёр, звонкасць блакітных нябёс, гаманлівасць ручаін, сонечнасць бярозавых гаёў і дуброў, у ёй — душа народа.

Глядач усім сэрцам палюбіў створаныя артысткай вобразы на сцэне опернага тэатра рэспублікі. Гэта Марыся і Алеся з опер Я. Цікоцкага «Міхась Падгорны» і «Дзяўчына з Палесся», Надзейка з «Кветкі шчасця» А. Туранкова, Таццяна, Ліза і графіня з опер П. Чайкоўскага «Яўгеній Анегін» і «Пікавая дама», Яраслаўна і Канчакоўна з «Князя Ігара» А. Барадзіна, Кармэн з аднайменнай оперы Ж. Бізэ, Маргарыта з «Фаўста» Ш. Гуно, Аксіння з «Ціхага Дона» І. Дзяржынскага і інш.

Манаграфія напісана на беларускай мове, у ёй выкарыстаны шматлікія артыкулы самой артысткі, яе ўспаміны і ўспаміны паплечнікаў па мастацтву, матэрыялы Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР, Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва БССР.

Манаграфія «Як жа ты свет упрыгожыла» разлічана на шырокае кола чытачоў.

**П. КАРНАЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: Л. АЛЕКСАНДРОЎСКАЯ ў ролі Марысі з оперы Я. Цікоцкага «Міхась Падгорны».**

**У Рэспубліканскім тэатры юнага гледача рыхтуецца да прэм'еры спектакль па матывах беларускіх народных казак «Як Марціна і Міхея чорт вадзіў». Ставіць яго рэжысёр Сяргей Палешчанкоў, мастак — Ларыса Рулёва, кампазітар — Сяргей Карнілаў. У новай рабоце зроблена спроба прачытаць звыклы фальклор з дапамогай сучасных мастацкіх сродкаў.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля. Поп — заслужаны артыст БССР Леанід УЛАШЧАНКА і Цар — заслужаны артыст БССР Міхаіл ПЯТРОЎ.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**



Адам ГЛОБУС

...Збяруся і паеду ў зімні лес,
Дзе існуе гармонія і згода,
Спакойна спіць зняемелая прырода,
У белай форме — самы чысты змест.

Не ведаю, ці дастаткова слоў,
Каб знікла спрацаванасць і маркота,
А на душы з'явілася свята!

Але я спадзяюся і прашу, —
Лясная ціша, дрэвы і сумёты,
На хвілю ацаліце мне душу.

# СУСТРЭЧЫ НА РОДНАЙ ЗЯМЛІ





Па запрашэнню Бацькоўскага камітэта беларускамоўных школ і класаў горада Мінска ў сталіцу Беларусі прыехала група вучняў беларускіх школ з Беласточчыны. У праграме беластоцкіх школьнікаў экскурсіі, сустрэчы з аднагодкамі, падарожжы, канцэрты...

Адзін з такіх канцэртаў нашыя госці арганізавалі падчас вечарыны, прысвечанай 70-й гадавіне з дня нараджэння выдатнага беларускага пісьменніка І. Мележа.

Вечар гэты быў арганізаваны Цэнтрам па прапагандзе беларускай культуры «Айчына», які створаны ў Фрунзенскім раёне Мінска. З расказам пра творчы шлях І. Мележа, пра незабыўныя сустрэчы з пісьменнікам выступілі крытык Дз. Бугаёў, паэт У. Карызна, пісьменнік Л. Дайнека. Была разыграна літаратурная віктарына па творчасці І. Мележа, пераможцай якой стала вучаніца 113-й мінскай школы Алена Нікалаева.

Пасля літаратурнай часткі вечарыны адбыўся канцэрт з удзелам дзяцей з Беласточчыны. Апякун дэлегацыі Я. Мордаль расказаў, што на Беларусь прыехала 28 дзяцей, якія сталі лаўрэатамі конкурсу дэкламатараў і выканаўцаў беларускай песні, які праводзіцца на Беласточчыне.

Менавіта ў іх выкананні слухачам, сярод якіх былі дарослыя і дзеці, былі прадстаўлены вершы беларускіх паэтаў, беларускія народныя песні, песні Беласточчыны. А лялечны тэатр з Бельска-Падляшскага паказаў прысутным дзіцячы спектакль па п'есе У. Ягоўдзіка «Зайка, тупні ножкай!»

Ад беластоцкіх артыстаў эстафета свята перайшла да беларускіх дзяцей з узорнага ансамбля народнага танца «Жавароначкі», якія з зайздросным жарам выканалі некалькі беларускіх танцаў, гульняў. На заканчэнне беларускія школьнікі паднеслі сваім аднагодкам з Беласточчыны кветкі і сувеніры.

Пасля вечарыны ў многіх яе ўдзельнікаў засталося спадзяванне на тое, што такія сустрэчы паміж дзецьмі і моладдзю Беларусі і Беласточчыны будуць пашырацца менавіта ў рамках супрацоўніцтва гарадскога Бацькоўскага камітэта і Цэнтра па прапагандзе беларускай культуры «Айчына».

**НА ЗДЫМКАХ:** зацікаўленыя гледачы — госці і гаспадары; апякун польскай дэлегацыі Янка МОРДАЛЬ (злева).

А. МЯЛЬГУЙ.






## НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 312.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12